Гродна
№ 7 (418),
5 красавіка 2015

www.slowo.grodnensis.by


# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# ХРЫСТОС УВАСКРОС!



Рэзурэкцыйная працэсія на Вялікдзень заўсёды збірае мноства вернікаў

## Умілаваныя ў Хрысце Пану Браты і Сёстры!



Як кожны год, у Велікодныя святы мы разам з паннамі з Евангелля скіроўваемся ў духу да гроба Хрыста. Поўныя ашаламлення, бачым камень, адсунуты ад увахода, і разумеем, што ў гробе няма цела Езуса. Мы чуем словы анёла, якія напаўняюць нашы сумныя, устрывожаныя сэрцы радасцю і супакоем: "Чаму вы шукаеце жывога сярод памерлых? Яго тут няма; Ён уваскрос" (Лк 24, 5–6).

Хрыстос уваскрос, Хрыстос жыве і будзе жыць заўсёды. Гэтая найважнейшая праўда хрысціянскай веры дазваляе нам іншымі вачамі паглядзець на свет, на гісторыю чалавецтва і на рэчаіснасць нашага жыцця. У Пасхальнай таямніцы мы пазнаём Хрыста як Пераможцу над сіламі зла, цемры і граху. Яго мукі і смерць з'яўляюцца задаткам нашага збаўлення, а крыж становіцца знакам Божай любові і прабачэння, брамай, якая вядзе да вечнага шчасця.

І хоць тут, на зямлі, жыццё чалавека не вызвалена ад смутку, цяжкасцей, цярпення і болю, нашыя сэрцы напоўнены цвёрдай надзеяй, бо мы верым, што ідучы за Хрыстом па дарогах веры, мы накіроўваемся не да смерці, а да паўнаты жыцця, якое не мае канца.

Вызнаючы веру ва ўваскрослага Хрыста, мы паўтараем за святым Паўлам: "Смерць, дзе твая перамога? Смерць, дзе тваё джала? [...] Богу ж падзяка, бо Ён даў нам перамогу праз нашага Пана Езуса Хрыста" (1 Кар 15, 55. 57).

## Дарагія Браты і Сёстры!

У святы Уваскрасення Пана жадаю Вам, каб вера ў Хрыста, які ёсць з намі і жыве ў нас, стала крыніцай глыбокай унутранай радасці, моцы духа, мужнасці і стойкасці ў добрым. Нам нельга стамляцца сведчыць аб надзеі, якая ёсць у нас. Няхай Божая любоў, аб'яўленая ў таямніцы Мукі, Смерці і Уваскрасення Хрыста, асвячае нас кожны дзень і робіць здольнымі праслаўляць Бога кожным добрым учынкам.

Перажываючы разам з Вамі радасць Велікодных свят, я ахінаю Вас сваёй малітвай, жадаю Божага благаслаўлення і выпрошваю для кожнага мноства неабходных ласкаў.

## Вясёлага Алелюя!

*Аляксандр Кашкевіч*
*Біскуп Гродзенскі*

# "БУДЗЬЦЕ МІЛАСЭРНЫМІ, ЯК І АЙЦЕЦ ВАШ МІЛАСЭРНЫ"

Гэтыя словы будуць дэвізам 2015 года, які папа Францішак абвясціў Юбілейным святым Годам міласэрнасці. Святы Айцец сказаў, што вельмі важна, каб свецкія вернікі жылі ім і занеслі яго ў розныя грамадскія сферы.

працяг на с. 3

## Каляндар падзей

**5 красавіка**
пачатак актавы Вялікадня.

**12 красавіка**
II Велікодная нядзеля. Свята Божай Міласэрнасці.

**13 красавіка**
24-я гадавіна прызначэння на пасаду кс. б-па Аляксандра Кашкевіча і заснавання Гродзенскай дыяцэзіі. Молімся за Пастыра і вернікаў.

## Запрашаем!

**Праграмы каталіцкай рэдакцыі:**

**"Голас Евангелля"**
Каталіцкая праграма на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё.
**Кожную нядзелю ў 8.00** запрашаем разважаць над Евангеллем і дзяліцца Божым словам.
**Гродна 103,0 FM**
**Свіслач 105,9 FM**

**"Сімвал веры"**
Каталіцкая праграма аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі выйдзе на тэлеканале Беларусь-2"
**13 красавіка ў панядзелак у 18.05**
пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання.

## Інтэрнэт-апытанне
www.grodnensis.by

**Чым для Вас з'яўляецца Вялікдзень?**

- рэлігійнай падзеяй
- сямейным святам
- прыгожай традыцыяй
- цяжка сказаць

Выкажыся

**"Езус уваскрос! Перамагла любоў, перамагла міласэрнасць!" – папа Францішак**

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### УВАСКРАСЕННЕ ПАНА

**Ян 20, 1–9**

У першы дзень тыдня Марыя Магдалена прыйшла да магілы раніцай, калі было яшчэ цёмна, і ўбачыла, што камень адсунуты ад магілы. І пабегла, і прыбыла да Сымона Пятра і да другога вучня, якога любіў Езус, і сказала ім: “Забралі Пана з магілы, і не ведаем, дзе паклалі Яго”.

Тады выйшаў Пётр і другі вучань, і пайшлі да магілы. Пабеглі абодва разам. І другі вучань пабег наперадзе хутчэй за Пятра і прыбыў да магілы першы. Заглянуўшы, убачыў, што ляжаць палотны, аднак не ўвайшоў. Тады прыйшоў за ім Сымон Пётр і ўвайшоў у магілу, і ўбачыў палотны, якія там ляжалі, і хусту, якая была на галаве Ягонай, не з палотнамі яна ляжала, а асобна, скручаная на іншым месцы. Тады ўвайшоў і той другі вучань, што прыбег першы да магілы, і ўбачыў, і паверыў. Бо яны яшчэ не ведалі Пісання, што трэба было Яму ўваскрэснуць з мёртвых.

### НАВІНА, ВЯДОМАЯ СТАГОДДЗЯМІ, АЛЕ ЎВЕСЬ ЧАС АКТУАЛЬНАЯ

Ніколі – ні раней, ні пазней – ніводзін такі кароткі тэкст не пакідаў у гісторыі чалавека глыбейшага следу. Ніколі не здаралася нічога падобнага! Вакол тленных чалавечых астанкаў будаваліся магілы, на магілах ставіліся прыгожыя помнікі, узносіліся піраміды, якія здзіўлялі цэлыя пакаленні.

Але толькі пра гэтую адну, адзіную Магілу напісана, што праз тры дні пасля таго, як туды паклалі Цела, яна аказалася пустой. І гэтая вестка ўжо на працягу дзвюх тысяч гадоў кожную вясну як “Добрая Навіна” заўсёды актуальная, ніколі не губляе сваёй унутранай моцы, нязменна захапляе. Успамін таго сведчання, запісанага св. Янам, будзе нас уражваць і ў вечнасці, бо мы маем шанс удзелу ў ёй дзякуючы веры, народжанай у сэрцы Апостала, які “ўбачыў і паверыў”. Усё гэта адбылося перад пустой Магілай. Каб і мы змаглі пахіліцца над яе таямніцай і ўзбагаціць свет нашым сведчаннем!

### НЯДЗЕЛЯ БОЖАЙ МІЛАСЭРНАСЦІ

**Ян 20, 19–31**

Калі быў вечар таго першага дня тыдня, і дзверы дома, дзе збіраліся вучні, былі замкнёныя ад страху перад юдэямі, прыйшоў Езус і стаў пасярэдзіне, і сказаў ім: “Супакой вам!”. І, сказаўшы гэта, паказаў ім рукі і бок. Узрадаваліся вучні, убачыўшы Пана. Тады Езус зноў сказаў ім: “Супакой вам! Як паслаў Мяне Айцец, так і я пасылаю вас”. І, сказаўшы гэта, дыхнуў, і кажа: “Прыміце Духа Святога. Каму адпусціце грахі, таму будуць адпушчаны; на кім пакінеце, на тым застануцца”.

Тамаш, адзін з Дванаццаці, называны Блізня, не быў з імі, калі прыйшоў Езус. Іншыя вучні казалі Яму: “Мы бачылі Пана”. Але ён сказаў ім: “Калі не ўбачу на руках Яго ран ад цвікоў і не ўкладу пальца свайго ў раны ад цвікоў, і не ўкладу рукі сваёй у бок Яго, не павеpу”.

І праз восем дзён зноў былі ў доме вучні Ягоныя і Тамаш з імі. Хоць дзверы былі замкнёныя, прыйшоў Езус, стаў пасярэдзіне і сказаў: “Супакой вам!”. Потым кажа Тамашу: “Дай сюды палец твой і паглядзі на рукі Мае; дай руку тваю і ўкладзі ў бок Мой; і не будзь няверуючым, але веруючым”. Тамаш, адказваючы, сказаў Яму: “Пан мой і Бог мой!”. Езус кажа яму: “Ты паверыў, Тамаш, таму што ўбачыў Мяне. Шчаслівыя тыя, хто не бачыў, а паверыў”. Шмат іншых цудаў, пра якія не напісана ў гэтай кнізе, учыніў Езус перад вучнямі сваімі. Гэтае ж напісана, каб вы паверылі, што Езус ёсць Месія, Сын Божы, і каб, веруючы, вы мелі жыццё ў імя Ягонае.

### ДАР СУМНЕННЯ

Якімі б мы былі сёння хрысціянамі без Тамаша і яго сумнення? Давайце будзем шчырымі – акрамя сведчання Апосталаў і шматвекавой традыцыі Касцёла, хрысціяне няспынна падпадаюць сумненням і спакусе пошукаў бачных, адчувальных доказаў існавання Бога ці сапраўднасці Евангелля. Святы Тамаш са сваім “Пан мой і Бог мой” патрэбны нам і сёння. Гэтае бласлаўленне Уваскрослага з’яўляецца неабходным. Яно больш дзейснае, чым нашы людскія сумненні.

*Кс. Яраслаў Грынашкевіч*

## Паверыць у Вялікдзень – значыць паверыць у Хрыста

**СЛОВА РЭДАКТАРА**

*Кс. Павел Салабуда*



Вялікдзень – гэта штосьці значна большае, чым святы, якія мы на працягу года перажываем з розных нагод. Вялікдзень – гэта сэнс нашага вечнага жыцця, фундамент нашай веры. У гэтыя дні мноства людзей будзе прыходзіць да пустой магілы, каб паспрабаваць паверыць у жыццё, якое становіцца вечным. Гэта тое самае жыццё, якое аб’явілася ва Укрыжаваным. “Хто верыць у Мяне, калі нават і памрэ, будзе жыць. А кожны, хто верыць у Мяне, не памрэ ніколі” (Ян 11, 25–26). Езус пацвярджае гэтыя словы сваім Уваскрасеннем. Таму пусты гроб Езуса павінен шырока распльюшчыць нам вочы на надзею лепшага жыцця. Гэта адзіная пустая магіла ва ўсім свеце, якая абуджае не страх, а надзею. Менавіта ў гэтым месцы ёсць навука жыцця для кожнага з нас: жыццё ў Хрысце становіцца мацнейшым, чым смерць; чалавек мае несмяротную душу. Калі б Хрыстос не ўваскрос, марнай была б наша вера і пустымі прадказанні, а хрысціянства не мела б сэнсу (параўн. 1 Кар 15, 17).

Вера ў Езуса ўзмацняе нашу веру ў наша жыццё, у сэнс гэтага жыцця, у свае ўласныя сілы і магчымасць быць шчаслівым. Вінцэнт Ван Гог непахісна верыў у сваё пакліканне быць мастаком. Яго крытыкавалі і недааацэньвалі, а ён стаў знакамітым і папулярным пасля смерці. Гэтая праўда датычыцца таксама святога Францішка Асізскага і іншых святых і бласлаўлёных. Малыя, непрыкметныя людзі, але вялікія ў веры свайго ўласнага жыцця, бласлаўлёнага Уваскрослым.

**З нагоды радасных свят Вялікага Дня ад імя ўсяго рэдакцыйнага калектыву жадаю нашым Чытачам, Сябрам і ўсім, хто моцна верыць ва Уваскрасенне Хрыста, глядзець у будучыню з нябеснай надзеяй, а таксама перажыць радасныя і прыемныя хвіліны разам з сям’ёй і сябрамі. Няхай гэты час будзе часам супакою і суцішэння, хвілінай уздыху і выдыху, радасці ад здзейсненых добрых учынкаў, добрых думак і добрых намераў. Няхай Вялікдзень стане часам евангелічнага аптымізму, неабходнага на кожны дзень зямнога жыцця.**

**Радаснага Алелюя, а таксама смачнага яйка і спакойных Велікодных свят!**

## Дуды

ДЭКАНАТ ІЎЕ

*Паводле архіва Гродзенскай дыяцэзіі*



*Знешні выгляд парафіяльнай святыні*


*Інтэр’ер касцёла*

У 1608 г. дудскае староства знаходзілася ва ўладанні ваяводы віленскага Караля Хадкевіча і, як сведчаць архіўныя дакументы, у гэтым годзе ён выдзяліў на касцёл у Дудах значныя ахвяраванні. Такім чынам, хоць датай заснавання дудскага касцёла і лічыцца 1608 г., атрымліваецца, што ў гэты час святыня ўжо існавала.

Святыня была нанова адбудавана ў 1712 г. на сродкі мясцовага землеўладальніка Гераніма Зяньковіча і яго жонкі Барбары з Суліструўскіх. У 1772 г. касцёл рэканструявалі, і ў 1781 г. віленскі біскуп Тамаш Зяньковіч урачыста кансэкраваў святыню пад тытулам Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі.

Касцёл заўсёды стаяў у цэнтры вёскі, апошні раз быў рэканструяваны ў 1908 г. З таго часу ён уяўляе сабой драўляны залавы аб’ём на каменным падмурку з пяціграннай апсідай, фланкаванай дзвюма квадратнымі сакрыстыямі. Галоўны фасад фланкаваны дзвюма магутнымі чацверыковымі вежамі, якія да пачатку XX ст. былі двух’яруснымі і ўвенчваліся чатырохсхільнымі купаламі з заломам пад барокавымі фігурнымі галоўкамі. Трэці ярус вежаў і шатры над імі з’явіліся падчас рэканструкцыі 1908 г., карункавыя крыжы пры гэтым захаваліся і былі падняты на новую вышыню. Аднак заўсёды касцёльныя вежы былі дэкаратыўнымі, званіца – двух’ярусная, чацверыковая, пад чатырохсхільным дахам – была пабудавана асобна, у левым куце касцёльнай агароджы пры ўваходзе. Касцёл накрыты адзіным двухсхільным дахам (калісьці быў гонтавы, сёння – бляшаны) з вальмамі над апсідай, вільчык над алтаром калісьці быў завершаны гранёнай барокавай галоўкай-сігнатуркай.

Інтэр’ер перакрыты адзіным корабавым скляпеннем, якое ўпрыгожана размалёўкамі ў стылі мадэрн. У святыні тры драўляныя алтары, выкананыя ў стылі барока. У галоўным, двух’ярусным, алтары паміж калонамі карынфскага ордэра ў цэнтры змешчаны абраз Маці Божай Дудскай, наверсе – разьбянае Укрыжаванне ў акружэнні фігур анёлаў. Кампазіцыя і дэкор бакавых алтароў, левага – Святога Крыжа, і правага – св. Нікадзіма, падобныя да галоўнага.

Як сведчыць легенда, цудадзейны абраз Маці Божай, што сёння знаходзіцца ў галоўным алтары касцёла, спачатку з’явіўся ў суседняй вёсцы Лугамавічы на суку дрэва. Аднак на працягу наступных чатырох гадоў абраз тры разы з’яўляўся ў Дудах. З таго часу ён вядомы як абраз Маці Божай Дудскай.

Тэрыторыя касцёла на пачатку XX ст. была абнесена муравaнай пабеленай агароджай, уваход пазначаны брамай у выглядзе чатырох слупоў.

Верагодна, на хвалі рэпрэсій пасля падаўлення паўстання 1863 г. дудская парафія была пазбаўлена самастойнасці, таму што ў другой палове XIX ст. касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі пазначаецца як філіяльны ад іўеўскай парафіі. Але з 1920-х гг. самастойнасць дудскай парафіі была адроджана. Была пабудавана капліца ў в. Казевічы. Перад Другой сусветнай вайной колькасць парафіян складала амаль 5000 вернікаў.

У савецкі час касцёл дзейнічаў бесперапынна, нягледзячы на тое, што парафія афіцыйна была знята з рэгістрацыі. Па некаторых звестках, касцёл быў зачынены ў 1959 г., у ім зрабілі сховішча, але ў 1983 г. вярнулі парафіянам. У 1970-я гг. святыня была залічана да помнікаў архітэктуры.

# “БУДЗЬЦЕ МІЛАСЭРНЫМІ, ЯК І АЙЦЕЦ ВАШ МІЛАСЭРНЫ”

*Навяртанне сэрца і здзяйсненне ўчынкаў міласэрнасці не толькі будуць сутнасцю годнага перажывання 2015 года. Дабрачынная і міласэрная дзейнасць былі таксама неад’емнай часткай Вялікага посту. У гэты перыяд людзі, якім не абыякавы праблемы іншых, рэалізавалі шэраг мерапрыемстваў, мэта якіх заключалася ў аказанні дапамогі тым, каму яна больш за ўсё патрэбна. Прычым бескарысліва, дабрачынна.*

● працяг са с. 1

Уся дзейнасць Касцёла грунтуецца на міласэрнасці, часам гэта спантанная дзейнасць, якая вынікае з патрэбы сэрца чалавека, з яго салідарнасці з іншым чалавекам, які знаходзіцца ў якой-небудзь патрэбе. Мы бачым на прыкладзе розных дзеянняў, што людзі гатовы дапамагаць не дзеля нейкай узнагароды, але таму, што хтосьці ў бядзе. Гэтую паслугу называюць паслугай добрага самараніна. Касцёл спяшаецца на дапамогу людзям, што знаходзяцца ў патрэбе. Асабліва на нашай гродзенскай зямлі можна заўважыць, што гэтая праца грунтуецца на валанцёрстве. Дабрачынная дзейнасць вядзецца не напаказ ці для нейкай рэкламы, у большасці сваёй яна застаецца ў таямніцы.

Вельмі ахвотна спяшаецца на дапамогу моладзь. Бачачы хворых дзяцей, хворых людзей, бяздомных, яны прагнуць дапамагчы ўсім, чым толькі могуць. Арганізуюць розныя акцыі дапамогі, ахвяруюць падарункі з нагоды розных свят. Моладзь з акадэмічнага душпастарства Гродна “OPEN” вельмі ахвотна адкрываецца і хоча дапамагаць. Мы ходзім у карэкцыйны цэнтр для хворых дзяцей, каб выказаць з імі салідарнасць, пакінуць ім дробныя падарункі. Можа, гэта і невялікая дапамога, але яна важная, бо мы бачым радасць на тварах дзяцей, бачым усмешкі. Так мы самі ўзмацняемся, паколькі гэта не мы ім патрэбны, а яны нам, каб зразумець, чаго варта любоў. Гэтыя дзеці нас узбагачаюць, вучаць быць больш адчувальнымі да бяды, не губляць сваю чалавечнасць.



**Кс. Антоній Грэмза,**
*душпастар гродзенскай моладзі*



Ужо сем гадоў я належу да дабрачыннай групы “Уваскрасенне”, якая дзейнічае пры душпастарстве “OPEN”. Наша дзейнасць накіравана на дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі. Мы нясём ім свае ўсмешкі, прысвячаем свой час. Мы рыхтуем для іх розныя прадстаўленні, дзе расказваем пра Бога, прыносім з сабой цацкі, адукацыйныя гульні. У гэтым годзе перад Вялікаднем мы наведалі дзяцей і паказалі спектакль пра хворую дзяўчынку, якую Пан Езус вярнуў да жыцця. У гэтым прадстаўленні мы выкарысталі ляльку, якую рабілі самі на працягу ўсяго года. Мы уклалі ў яе вельмі шмат любові і працы, таму можна сказаць, што гэтая лялька мае душу.

Сёння людзі не хочуць самі штосьці рабіць, ім прасцей даць грошы, але цяжка ахвяраваць свой час. Але моладзь, якую я ведаю, вельмі ахвотна ахвяруе свой час і далучаецца да дабрачыннасці, бо яна мае добрыя сэрцы, адкрытыя на міласэрнасць.

**Ірына Сосна,** *душпастарства “OPEN”*

На працягу чатырох гадоў я займаюся хворымі людзьмі на тэрыторыі парафіі Унебаўзяцця НПМ і св. Язафата Кунцэвіча ў Сапоцкіне, да якой належыць 27 вёсак. У маім спіску больш за 300 хворых. Я наведваю тых, каму гэта найбольш неабходна: ляжачых людзей, тых, да каго ўрачу няма навошта хадзіць, паколькі іх хваробы не паддаюцца медыцынскаму лячэнню. Я стараюся прыносіць палёгку гэтым пакутуючым людзям. У прыярытэце таксама адзінокія. Да ўсіх гэтых людзей прыходзіць і сацыяльная апека, але толькі раз ці два разы на тыдзень. А ім вельмі неабходны сталы клопат, звычайнае чалавечае слова, падтрымка, ім трэба расказаць усё тое, што назбіралася ў іх душы.

Адной з форм нашай дабрачыннай дзейнасці з’яўляюцца дабрачынныя акцыі. Напрыклад, калі некаму неабходны сродкі на лячэнне, а звычайна гэта дастаткова вялікія грошы, тады мы арганізуем акцыю дапамогі, і людзі вельмі ахвотна да яе далучаюцца. Адна з нашых акцый адбылася на Дзень хворых: мы ездзілі з калядой па дамах, нам удалося сабраць значную суму, якая была прызначана на пачастунак для хворых. Дзеці зрабілі паштоўкі з нагоды Дня хворых, на іх былі напісаны прыемныя словы, якія ўздымаюць настрой. Хворых былі вельмі ўсцешаны.

Таксама напярэдадні Вялікадня мы зрабілі для нашых хворых велікодныя кошычкі з асвечаным, якія потым развезлі па хатах.

Варта падкрэсліць, што ва ўсіх нашых акцыях вельмі ахвотна прымаюць удзел мясцовыя парафіяне. Але калі казаць пра валанцёрства, то амаль няма ахвотных удзельнічаць у гэтай форме дапамогі патрабуючым. Можна заўважыць, што людзі замыкаюцца ад іншых, знікае пачуццё спачування, духоўнай падтрымкі, зацікаўленасці: ці не патрэбна штосьці адзінокаму, хвораму чалавеку. Атрымліваецца, што людзі проста забываюцца, што кожнага калісьці чакае старасць – той апошні прамежак, апошні этап, і можа здарыцца так, што калі чалавеку больш за ўсё хтосьці будзе неабходны, не знойдзецца той другой асобы, не акажацца побач бліжняга. А вельмі важна, каб побач з хворым ці адзінокім чалавекам быў хтосьці, хто суцешыць, вытра слёзы.

Я кожны дзень езджу па вёсках і бачу, як людзі ўмеюць дастойна пераносіць свае пакуты, далучаць сваю адзіноту, свае намаганні да мукі Езуса, як яны моляцца за цэлы свет, за дыяцэзію і ў іншых інтэнцыях цэлымі днямі. Гледзячы на гэта, сустракаючы такіх людзей, сэрца разварочваецца і хочацца быць з імі, быць якімсьці маленькім праменьчыкам у іх жыцці, несці ім Езуса, а разам з Ім таксама радасць і супакой у сэрцы.

Паводле мяне, міласэрнасць – гэта дзяленне Богам, евангелізацыя, гэта выхад насустрач іншаму чалавеку ў духу Езуса, гэта ўменне разгледзець у кожным Яго аблічча. Яно часам можа быць трохі здэфармаванае, і мы павінны клапаціцца пра тое, каб рысы Езуса былі ўсё больш выразныя ў абліччы гэтага чалавека. Мы ходзім да людзей, якія часам згубіліся на жыццёвым шляху, і стараемся працаваць над тым, каб кожнага прывесці да Хрыста. Гэтая духоўная справа вельмі важная, але варта таксама ўбачыць патрэбы іншага чалавека, такія простыя, людскія, матэрыяльныя. Проста прытуліць яго, абцерці слёзы, выслухаць і паклапаціцца пра тое, каб ён мог жыць, мог адчуваць, што яго любяць – і Бог, і тыя, хто да яго прыходзіць.



**Сястра Гарэцці,**
*серафітка*



У III Нядзелю Вялікага посту валанцёры “Карытас” зладзілі кірмаш ў гродзенскай парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля. На ім былі прадстаўлены велікодныя паштоўкі, свечкі, мяккія цацкі ў выглядзе сэрцаў і птушак, свежая выпечка і інш. Парафіяне былі прыемна здзіўлены разнастайнасцю прадстаўленых творчых работ і прынялі актыўны ўдзел у кірмашы сваімі ахвяраваннямі. Мэта кірмашу была ў тым, каб як мага больш людзей маглі ў гэты дзень зрабіць добра тым, хто яго асабліва патрабуе.

Падчас кірмашу валанцёры распавялі пра дабрачынную дзейнасць “Карытас” і пра тое, як і каму дапамагае гэтая арганізацыя. Яны заахвоцілі вернікаў матэрыяльным і духоўным чынам далучыцца да дапамогі патрабуючым.

У Касцёле ў Беларусі кожная III Нядзеля Вялікага посту адзначаецца як нядзеля “Карытас”, калі вернікі скіроўваюцца думкамі не толькі да таямніц, звязаных з мукай Езуса Хрыста, але і да тых, хто найбольш патрабуе дапамогі.

Сёлетнюю нядзелю “Карытас”, а таксама ўвесь 2015 год Касцёл перажывае пад дэвізам: “Выкараненне крайняй беднасці і голаду”.

**Алег Гарбачоў,** *Дабрачыннае каталіцкае таварыства “Карытас” у Гродне*

***Падрыхтавала Кінга Красіцкая***

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

***Папа Францішак***



*Святы Павел прыгадвае нам: “Бог, будучы багатым на міласэрнасць, у сваёй вялікай любові палюбіў нас, і нас, мёртвых з-за грахоў, ажывіў разам з Хрыстом” (Эф 2, 4–5). Крыж Хрыста з’яўляецца самым галоўным доказам любові Бога да нас: Езус палюбіў нас дарэшты (параўн. Ян 13, 1), гэта значыць, што не толькі да апошняй хвіліны свайго зямнога жыцця, але да існуючых межаў любові. Калі праз стварэнне Айцец даказаў нам сваю любоў, даючы нам жыццё, то праз пакуты Сына Ён даў нам доказ самай высокай пробы: Ён прыйшоў, каб пакутаваць і памерці за нас.*

*Пасля смерці і ўваскрасення Езуса “любоў Божая, – кажа св. Павел, – вылілася ў сэрцы нашыя праз Духа Святога, які дадзены нам” (Рым 5, 5). Святы Дух дзейнічае ў Касцёле і такім чынам забяспечвае жывую памяць пра Хрыста. Ён дзейнічае ўсюды, нават па-за Касцёлам, дзякуючы чаму ўзрастае вартасць сапраўднага чалавецтва.*

*Анёл Панскі са Святым Айцом*

***Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч***



*У свеце шмат спакус, іх колькасць расце з дня на дзень. Злы дух рознымі спосабамі спакушае нас, каб мы не захоўвалі нашых хрысціянскіх абавязкаў. Часам мы павінны плаціць вялікую цану за вернасць хрысціянскаму пакліканню. Наша асяроддзе можа адмовіцца ад нас і выключыць са свайго кола. У такім выпадку трэба памятаць аб тым, што з дапамогай Божай ласкі мы зможам перамагчы ўсе цяжкасці, і няма нічога больш важнага, чым быць аб’яднаным з Хрыстом.*

*Гэта наша гадзіна і наш час, каб сказаць Богу “так”, не ўцякаць ад Яго, але быць з Ім у штодзённым жыцці. Гэта фундаментальнае заданне, якое стаіць перад намі.*

*Фрагмент гаміліі на V Нядзелю Вялікага посту*




◆ У Францыі на Вялікдзень больш за 5 тысяч чалавек прымуць хрост у каталіцкім Касцёле. Гэтая падзея адбудзецца падчас начнога чування. Як падае Канферэнцыя Епіскапату Францыі, колькасць ахрышчаных будзе на 30% большая, чым 10 гадоў таму. Сярод катэхуменаў ёсць як дзеці, так і дарослыя людзі. Гэта жыхары заморскіх тэрыторый Францыі. Некалькі чалавек, як і ў папярэднія гады, – былыя мусульмане.

◆ У Ватыкане на плошчы св. Пятра ў V Нядзелю Вялікага посту пасля малітвы Анёл Панскі было раздадзена 50 тысяч экзэмпляраў Евангелля. Гэтае кішэннае выданне раздавалі семінарысты рымскіх семінарый, манаскія сёстры з розных супольнасцей і бяздомныя. Падобная акцыя адбылася таксама ў мінулым годзе. Папа часта заахвочвае вернікаў чытаць Евангелле і разважаць словы Хрыста. Святы Айцец сказаў сабраным на плошчы св. Пятра: “Вазьміце іх і насіце з сабой, каб часцей чытаць, чытаць штодзённа. Божае слова – гэта святло на нашай дарозе”.

◆ Агенцтва “Фідэс” падае, што ў 1980–2014 гг. у свеце забіта 1062 місіянераў. Паводле даных агенцтва, у 1980–1989 гг. загінула 115 місіянераў, у 1990–2000 – 604 (у тым ліку 248 падчас генацыду ў Руандзе ў 1994 г.), а ў 2001–2014 гг. – 343. У 2014 г. іх было 26, у тым ліку 17 дыяцэзіяльных і манаскіх святароў, 6 манаскіх сясцёр, 1 брат, 1 семінарыст і 1 свецкі місіянер.

◆ Хрысціяне ў Вялікабрытаніі не толькі баяцца насіць сімвалы сваёй рэлігіі, яны таксама ўтойваюць сваю веру з-за боязі дыскрымінацыі і здзекаў. Такія высновы падае Камісія па справах роўнасці і праў чалавека на аснове праведзеных у апошні час даследаванняў. У іх прынялі ўдзел 2,5 тысячы чалавек. Як падаецца ў справаздачы Камісіі, хрысціяне прызнаваліся, што іх прымушаюць не паказваць сваю веру. Вызнаўцы Хрыста адчуваюць, што іх дыскрымінуюць таксама праз новае распараджэнне аб раўнапраўі.

◆ У Іспаніі назіраецца рост колькасці семінарыстаў. Дзень семінарыі адзначаецца ў гэтай краіне ва ўрачыстасць св. Юзафа ці ў бліжэйшую пасля яе нядзелю. Як падае епіскапат Іспаніі, колькасць семінарыстаў узрастае ўжо чацвёрты год запар. У сімінарыях да святарства рыхтуюцца 1357 алюмнаў, гэта амаль на 3% больш, чым у мінулым годзе. Больш за ўсё алюмнаў навучаецца ў семінарыях у Мадрыдзе, Таледа, Рэдэмпторыс Матэр у Мадрыдзе, а таксама ў Валенсіі. Мадрыд, Валенсія і Севілья прынялі таксама больш за ўсё кандыдатаў на першы курс. У 2014 г. сакрамант святарства прыняло ў Іспаніі 117 чалавек. Акрамя гэтага, у ніжэйшых семінарыях у бягучым годзе навучаецца каля 1150 хлопцаў.

Katolik.ru; credo-ua.org; niedziela.pl; ekai.pl.

*Кс. Ян Раманоўскі*



***Дарагія Браты і Сёстры!***
***Хрыстос Уваскрос!***
***Сапраўды Уваскрос!***

У адгартацыі “Evangelii gaudium” папа Францішак піша, што ёсць хрысціяне, якія жывуць Вялікім постам без Вялікадня.

Аднак, Папа прызнае, што радасць не перажываецца такім самым чынам на ўсіх жыццёвых этапах і ў розных абставінах, часам вельмі складаных. Яна прыстасоўваецца і змяняецца, але заўсёды застаецца хаця б у выглядзе праменьчыка святла, які нараджаецца з асабістай упэўненасці, што нас бязмежна любяць нягледзячы ні на што. Радасць Евангелля напаўняе сэрца і ўсё жыццё тых, хто сустракаецца з Езусам. Тыя, хто дазваляе сябе збавіць, вызваляюцца ад граху, смутку, унутранай пусткі і ізаляцыі. З Езусам Хрыстом радасць заўсёды нараджаецца і адраджаецца.

***Браты і Сёстры!***

Не зачыняйцеся ў сабе, не дайце сябе атруціць дробным хатнім спрэчкам, не будзьце вязнямі сваіх праблем. Яны вырашацца, калі Вы выйдзеце і дапаможаце іншым у вырашэнні іх праблем і абвяшчэнні Добрай Навіны. Вы знойдзеце жыццё, даючы жыццё, надзею – даючы надзею, а любоў – кахаючы.

***Радасных і спакойных свят Уваскрасення Пана!***

***Юзаф Станеўскі***
***Дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі***




# У Бога няма памылак

***Сёння сваю гісторыю распавядае ксёндз Мар’ян Хаменя з Кангрэгацыі святога Арханёла Міхала.***





*Святарскія пасвячэнні кс. Мар’яна ў Любліне*

## Марыў стаць місіянерам

Ксёндз Мар’ян паходзіць з Ваўкавышчыны. Нарадзіўся ў вёсцы Сямёнава, быў ахрышчаны ў касцёле Найсвяцейшай Тройцы ў Шылавічах. У канцы 1950-х гадоў сям’я выехала з Беларусі і пасялілася паміж Мальбаркам і Штумам у вёсцы Гасцішава.

*“Нас было чацвёра дзяцей. У нядзелю, памятаю, прачыналіся, калі маці спявала Гадзінкі да Маці Божай. Спявала і гатавала снядання”.*

Пасля школы малады хлопец вучыўся ў ліцэі ў Штуме. А затым уступіў у манаскі ордэн вербістаў у Пененжне.

*“Я з дзяцінства хацеў стаць ксяндзом. Гэтае жаданне было ўва мне заўсёды. Я пайшоў да вербістаў, марыў выехаць на місіі ў Папуа–Новую Гвінею”.*

Пасля чатырох гадоў побыту ў вербістаў падчас футбольнага матча сур’ёзна траўміраваў нагу. Перанёс аперацыю, доўгі час не мог хадзіць. А затым была працяглая рэабілітацыя, фізіятэрапія... У ордэне палічылі, што юнак не зможа стаць місіянерам: занадта моцна ўсё перажывае, не хопіць сіл для такой цяжкай працы.

Пачаў працаваць кіраўніком склада ў Гданьску.

## У міхалітаў

Малады чалавек не быў згодны развітацца са сваімі жаданнямі. Два гады ён стукаўся ў дзверы розных ордэнаў. Прынялі яго ксяндзы міхаліты.

*“Я ўступіў у Кангрэгацыю святога Арханёла Міхала. Скончыў семінарыю ў Кракаве і быў пасвечаны ў святары святым Янам Паўлам ІІ 9 чэрвеня 1987 года ў Любліне. Мне было тады 30 гадоў”.*

Пасля ксёндз Мар’ян працаваў у Торуні катэхетам – вучыў дзяцей. Затым быў накіраваны на навучанне ў Рым, дзе скончыў дагматыку.

*“Генерал ордэна якраз думаў накіраваць людзей на працу ў Беларусь. А я марыў аб гэтым... І вось я ў Шылавічах. Працую тут ужо больш за 25 гадоў”.*

## З Божай дапамогай

Ксёндз Мар’ян трапіў у парафію, калі касцёл быў моцна пашкоджаны. Спатрэбілася шмат часу і сіл, каб аднавіць святыню.

*“Ордэн дапамагаў, людзі, арганізацыі, калгасы. Я тады ў большай ступені займаўся не святарскай працай, а прарабскай – будоўля, рамонт...”.*

З Божай дапамогай пабудавалі таксама плябанію, капліцу ў Вердамічах, невялікі касцёл святой Фаўстыны Кавальскай у Субачах.

*“Я абслугоўваў дзве парафіі – Шылавічы і Мсцібава. Да сённяшняга дня памятаю гэтыя мукі. Ездзіў па хворых, а калі вяртаўся ў касцёл, мяне чакалі доўгія чэргі да споведзі. Гэта сёння мы маем яшчэ аднаго ксяндза – тады я быў адзін”.*

Паступова ксёндз Мар’ян губляў здароўе. Да таго ж, у 1996 годзе з ім здарылася страшная аварыя. На верталёце святара перавезлі ў Варшаву.

*“Тут мяне ратавалі ад смерці, там – ад калецтва. Перанёс яшчэ 4 аперацыі. Сёння ў маёй назе ад калена да сцягна ў сярэдзіне косці стаіць жалязяка”.*

Кожную першую суботу месяца ксёндз Мар’ян адпраўляе двухгадзіннае набажэнства. Арганізаваў таксама набажэнства Апостальства дапамогі чыстцовым душам, якое добра развіваецца.

*“Літаральна некалькі гадоў таму вербісты перадалі мне, што шмат гадоў таму здарылася памылка. Няхай іншы павінен быў сысці з ордэна. Але я ўпэўнены, што ў Бога няма памылак* (усміхаецца – ***заўв. аўт.***)*”.*

***Ангеліна Пакачайла***




**Хвала Хрысту!**

*У чарговы раз вітаю Вас у моладзевай рубрыцы "На скрыжаванні". Сёння мы паразважаем аб важнасці кропкі апоры, сіле рычага і карысці аднаго пасаджанага дрэўца. Даведаемся, як валодаць сабой і сваімі здольнасцямі.*

**Што ж, наперад з Богам!**

# Зрабіць гэты свет лепшым


Ангеліна Пакачайла

### ВЫКАЗВАННЕ З БІБЛІІ:
**"Поле – гэта свет, добрае насенне – гэта сыны Валадарства, а каласоўнік – сыны злога духа" (Мц 13, 38)**

Мы прыйшлі ў свет, каб прыносіць добры плён. Людзі "другой культуры" наносяць шкоду, звязаную са зніжэннем ураджайнасці або, у горшым выпадку, з гібеллю пасеваў. Нягледзячы на гэтыя перашкоды, мы нястомна павінны несці ў свет добрае.

### ІНТЭНЦЫЯ МЕСЯЦА:
**каб людзі навучыліся паважаць створаны свет і абараняць яго як дар Божы**

Папа заклікае католікаў маліцца ў інтэнцыі павагі людзей да Божых спраў, а менавіта да дару стварэння Сусвету. Мы павінны шанаваць прыроду і ставіцца да яе абарону. У адваротным выпадку, мы грэбуем Богам і рызыкуем з часам страціць падараванае нам назаўсёды.

### ПРАДМЕТ РАЗВАЖАННЯЎ МЕСЯЦА:
**свет**

Бог стварыў зямны свет для ўсіх і кожнага з нас. Мы жывём і таксама разам ствараем свет – сусветную супольнасць. Да таго ж, кожны будуе свой свет асабіста – унутраны. На вышэйшым узроўні свайго развіцця мы пачынаем клапаціцца пра свет духоўны, яднаемся з Богам.

Паразважаем, у якім свеце мы жывём сёння, што для нас з'яўляецца прыярытэтам: зямное, грамадскае, унутранае ці духоўнае.

### МЭТА МЕСЯЦА:
**зрабіць гэты свет лепшым**

Вы ўяўляеце, як выглядае рычаг? Гэта перакладзіна, якая верціцца вакол кропкі апоры. Выкарыстанне рычага дазваляе атрымаць перавагу ў сіле і падняць голымі рукамі непасільны груз. Невялікі высілак, але ўражваючы вынік.

Так і ў жыцці. Кожны з нас з'яўляецца такім рычагом. Кропка апоры – гэта падстава нашага жыцця, мэта і місія. Прыкладваючы невялікія намаганні, мы атрымліваем сур'ёзны рэзультат. Галоўнае – ведаць, на што абапірацца. Нездарма Архімед усклікаў: "Дайце мне кропку апоры і я перавярну свет".

### СПРАВА МЕСЯЦА:
**пасадзіць дрэва**

Ідзя што трэба! За ўвесь час праз нас прайшло столькі паперы, кніг, алоўкаў. Штодня мы спім на драўляным ложку і працуем за драўляным сталом. Магчыма, хтосьці іграе на гітары ці піяніна, у хакей або настольны тэніс. А як хораша летам развесці вогнішча і пасмажыць шашлык... Мы бярэм спаўна. Можа, трэба трошкі кампенсаваць урон, нанесены прыродзе?

Да ўвагі: адно дрэва выпрацоўвае сутачную норму кіслароду, неабходную для трох чалавек, штогод яно фільтруе да 132 кг рэчываў, якія забруджваюць паветра.

### ПЕСНЯ МЕСЯЦА:
**"Бог нам жыццё падарыў", Дзеці Неба**

Калі я ўпершыню пачула гэтую песню, падумала, што яна магла б стаць канцоўкай якой-небудзь добрай кінастужкі: павольная і меладычная. Песня пачынаецца са слоў: "Бог нам жыццё падарыў, даў цэлы свет". Мэта выканаўцаў – з'яднаць людзей, "бо ўся планета – гэта агульны дом, а мы ўсе – браты і сёстры. І гэта вельмі проста – любіць таго, хто побач з табой".

### КНІГА МЕСЯЦА:
**"Не адзіным хлебам", кс. мгр Уладзіслаў Завальнюк**




Мэта кнігі – звярнуць увагу на разумнае выкарыстанне ўсіх рэсурсаў нашага арганізма. Падрабязна апісваецца, як навучыцца валодаць сабой, сваімі духоўнымі і фізічнымі здольнасцямі. "Студэнты і школьнікі вучацца не дзеля таго, каб вучыцца, а каб потым разумна пражыць Богам дадзенае жыццё для дабра свайго, сваёй душы і для дабра іншых людзей", – напісана ва ўступным слове ад аўтара. Кніга прысвечана пытанню аздараўлення праз чысты аздараўленчы пост. Пабудавана на аснове Бібліі, навуковых даследаванняў і асабістага вопыту аўтара.

### АСОБА МЕСЯЦА:
**святая Зіта**

Нарадзілася Зіта ў 1218 г. у вёсцы Монсаграці ў Італіі. Паходзіла з беднай, але пабожнай сям'і. Ва ўзросце 12 год пачала прыслугоўваць у доме сям'і Фаціанэлі ў горадзе Лука. Доўгі час працадаўцы пагаржалі дзяўчыну цяжкай працай, збівалі. Зіта пераносіла здзекі з пакорай. Штодня яна хадзіла на святую Імшу, прымала камунію. Шмат посціла на хлебе і вадзе, спала на голай зямлі. Пастаянныя пакуты і пабожнасць Зіты паспрыялі хрысціянскаму навяртанню сям'і Фаціанэлі. Сама дзяўчына лічыла сваю службу пакліканнем ад Бога.

Памерла Зіта пасля непрацяглай хваробы 27 красавіка 1272 г. З 60-ці гадоў, якія яна пражыла, на працягу 42-ух служыла ў сям'і Фаціанэлі. Пасля яе смерці члены сям'і сталі ўшаноўваць Зіту як святую.

Калі ў 1652 г. падчас кананізацыйнага працэсу адчынілі яе труну, знайшлі там нятленнае цела. Мошчы былі перанесены ў базіліку св. Фрыдыяна, куды Зіта хадзіла штодня.

Кананізавана ў 1696 г. папам Інакенціем XII. Папа Пій XI аб'явіў Зіту заступніцай горада Лука і хатняй прыслугі. Пад яе імем паўстала некальki рэлігійных таварыстваў. Дзень успаміну ў каталіцкім Касцёле – 27 красавіка.

**Да якіх святых маліцца ў красавіку?**

*Св. Францішак (2 красавіка), св. Рышард (3 красавіка), св. Ян (7 красавіка), св. Дзмітрый (9 красавіка), св. Анастасія (15 красавіка), св. Конрад (21 красавіка), св. Юрый (23 красавіка), св. Зіта (27 красавіка), св. Пётр (28 красавіка).*

*Усе заўвагі і прапановы дасылайце на паштовую скрыню рэдакцыі або на электронны адрас аўтара рубрыкі* pokachailo.lina@gmail.com.




# Разважаючы Муку Пана

Неад'емным элементам Вялікага посту з'яўляецца набажэнства Крыжовага шляху, якое адбываецца на ўспамін апошніх хвілін перад мучаніцкай смерцю Езуса на крыжы. У многіх мясцовасцях Гродзенскай дыяцэзіі працэсіі Крыжовага шляху выйшлі на вуліцы. Для вернікаў гэта было не толькі супольнае нясенне крыжа, але перш за ўсё сведчанне веры.


Гродна


Тэатральная пастаноўка Крыжовага шляху ў парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне


Смаргонь


Сапоцкін


Вялікая Бераставіца







**Ноч канфесіяналаў**

***Ва ўсёй Польшчы перад Велікоднымі святамі адбылася акцыя вячэрняй споведзі. Гэта напамін вернікам аб духоўнай падрыхтоўцы да Пасхі.***

*Акцыя споведзі адбылася, між іншым, у Кракаве. Яе дэвізам былі словы: "Святло ў цемры". У пяці касцёлах ад 21.00 да амаль 2.00 спаведнікі чакалі вернікаў у канфесіяналах.*

*Гэтая акцыя з'яўляецца таксама выцягнутай рукой для людзей, якія працуюць да позніх вячэрніх гадзін. Гэта таксама шанс прыступіць да споведзі ў цішыні, без спешкі, зазірнуць углыб сябе ў вячэрняй аўры інтымнасці.*




**Перуанцы за жыццё**

***Звыш паўмільёна перуанцаў удзельнічалі ў Маршы за жыццё ў Ліме. Яны скандавалі: "Так жыццю, не абортам!".***

*У пасланні, зачытаным аб-пам Лімы Хуанам Луісам Сіпрыяні, папа Францішак запэўніў, што далучаецца да іх малітвы і дзейнасці на карысць абароны і падтрымкі чалавечага жыцця ад яго зачацця да натуральнай смерці. Папа заклікаў удзельнікаў маршу адважна сведчыць аб святасці жыцця кожнага чалавека, створанага Богам па Яго вобразе і падабенстве і адкупленага Хрыстом на крыжы.*

*Папа таксама папрасіў удзельнікаў маршу аб малітве ў яго інтэнцыі, на што перуанцы ў тую ж хвіліну адказалі малітвай "Ойча наш".*




**150 бяздомных наведалі ватыканскія музеі**

***З гэтай ініцыятывай выступіў Урад апостальскай дабрачыннасці, якім кіруе абп Конрад Краеўскі.***

*Бяздомныя былі падзелены на тры групы, кожная з якіх атрымала свайго гіда, а яго тлумачэнні яны слухалі праз навушнікі. Перш, чым групы ўвайшлі ў музеі, яны прайшлі праз Ватыкан, дзякуючы чаму ўбачылі, між іншым, Дом св. Марты, дзе жыве Папа.*

*Візіт скончыўся ў Сікстынскай капліцы, якая ў сувязі з гэтым была ў гэты дзень раней зачынена для наведвальнікаў. Пасля супольнай малітвы бяздомных запрасілі на вячэру.*

**Кінга Красіцкая**

## У Гродне адзначылі імяніны кс. б-па Юзафа Станеўскага

*Урачыстасці адбыліся ў ВДС. Семінарысты ўрачыста адзначылі ўспамін св. Юзафа – абранніка Найсвяцейшай Панны Марыі, заступніка Касцёла і ўсіх працуючых людзей, а таксама нябеснага заступніка кс. б-па Юзафа Станеўскага.*



У гэты асаблівы для кс. біскупа дзень на св. Імшы маліліся, каб Бог праз заступніцтва святога апекуна, які карпатліва і сумленна працаваў у Назарэце на працягу многіх гадоў для ўтрымання сваёй Сям'і, запаліў біскупа Юзафа падобнай руплівасцю ў выкананні штодзённых абавязкаў.

Прысутныя прасілі, каб Пан дапамог біскупу ў будаўніцтве сапраўднай хрысціянскай супольнасці, якая б заўсёды жыла паводле прыкладу св. Юзафа ў еднасці з Езусам і Марыяй.

## Вернікі Альшанкі атрымалі зямлю пад будову касцёла

*На працягу трох гадоў парафіяне збіраліся каля маленькай каплічкі, а зараз атрымалі ад кіраўніка краіны зямлю пад будову святыні.*

На сённяшні дзень парафія Святога Духа ў Гродне налічвае каля 3000 вернікаў. Пад будову касцёла вылучана 58 сотак зямлі, у бліжэйшы час будзе створаны спецыяльны калектыў людзей, які будзе распрацоўваць праект.

Пробашч парафіі кс. Павел Салабуда мяркуе, што старую капліцу ўдасца перанесці на пляц ля касцёла, як гістарычны для парафіі аб'ект.

## Вялікапосныя рэкалекцыі адбыліся ў Шчучыне

*Вернікаў рыхтаваў да Велікодных свят а. Аляксандр Жарнасек MIC з парафіі ў Оршы.*



У межах рэкалекцый у парафіі святой Тэрэзы ў Шчучыне прайшла сустрэча для моладзі, якая рыхтуецца да сакраманту канфірмацыі. Падчас сустрэчы з маладымі вернікамі а. Аляксандр удзяліў кожнаму з іх індывідуальнае блаславенне праз ускладанне рук.

А 20 сакавіка парафія перажывала набажэнства Крыжовага шляху вуліцамі горада. Па традыцыі парафіяне змаглі не толькі прыняць удзел у набажэнстве, але і даць сведчанне сваёй веры праз актыўны ўдзел у малітве.

## У 10-ю гадавіну смерці кс. прэлата Казіміра Шаняўскага

*25 сакавіка вернікі парафіі Маці Божай Ружанцовай у Радуні ўзгадалі свайго былога пробашча кс. прэлата Казіміра Шаняўскага. Таксама сёлета адзначаецца 100-годдзе з дня нараджэння святара.*



Вернікі радунскай парафіі выказалі ўдзячнасць Богу за дар гэтай асобы, дзякуючы якой ім удалося паглыбіць веру і ўдзельнічаць у сакраментальным жыцці Касцёла. Урачыстую св. Імшу ў парафіяльным касцёле ўзначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. Узгадваючы спачылага 10 гадоў таму кс. Шаняўскага, біскуп адзначыў, што гэты святар у свой час пачуў голас Хрыста і адказаў на яго жаданнем служыць Богу і людзям.

Пасля Імшы адбылася малітва на месцы пахавання кс. Казіміра Шаняўскага каля святыні.

## У гродзенскай семінарыі прайшлі рэкалекцыі

*Чарговыя рэкалекцыі распазнання паклікання адбыліся 27–29 сакавіка. У сустрэчы ўдзельнічалі маладыя людзі з усёй дыяцэзіі – 32 чалавекі. Канферэнцыі, святая Імша, адарацыя, ранішняя і вячэрняя малітвы, сакрамант пакаяння дапамагалі ўдзельнікам на працягу гэтых дзён разважаць над сваёй дарогай жыцця і пазнаваць самых сябе.*



Арганізатары духоўных практыкаванняў заклікалі ўдзельнікаў рэкалекцый адкрыць сэрцы на дзейнасць Святога Духа. Падкрэслівалася, як важна прыслухоўвацца да голасу Бога, каб распазнаць сваё пакліканне. Падчас такіх рэкалекцый важнае значэнне маюць цішыня і засяроджанасць, якія неабходны для пошуку сэнсу жыцця.

Падчас рэкалекцый распазнання паклікання хлопцы мелі магчымасць сустрэцца з духоўнымі айцамі і навучэнцамі семінарыі, таксама ў іх быў час на асабістую малітву і адпачынак. Маладыя людзі ўдзельнічалі ў Крыжовым шляху, які праходзіў вуліцамі Гродна вечарам у суботу напярэдадні Пальмовай нядзелі. На заканчэнне рэкалекцый яны прынялі ўдзел ва ўрачыстасцях Пальмовай нядзелі і працэсіі з пальмамі.

## Пальмовая нядзеля ў Гродне

*29 сакавіка моладзь Гродна і ваколіц, адказваючы на запрашэнне біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча, прыбыла на пабернардынскі ўзгорак, каб разам перажыць Дзень моладзі. Ужо на працягу 30 гадоў па волі св. Яна Паўла II Пальмовая нядзеля з'яўляецца Сусветным днём моладзі. Гэта нагода і запрашэнне, каб паглыбіць веру і задумацца над прыгажосцю Евангелля, каб аднавіць у сабе запал і пайсці за Хрыстом.*



У гэты дзень маладыя вернікі прынеслі вербавыя галінкі – сімвал жыцця, якое адраджаецца. У Гродне ўжо шмат гадоў існуе прыгожая традыцыя: моладзь прыязджае з вялікімі пальмамі, а яе ўдзел у набажэнствах разам са сваімі душпастарамі сведчыць аб адраджэнні Касцёла на Гродзеншчыне. Пасля асвячэння пальмаў маладыя вернікі, на ўзор людзей, што віталі Езуса пры ўваходзе ў Ерузалем, вырушылі з пабернардынскага ўзгорка да кафедральнага касцёла св. Францішка Ксаверыя.

Імшу ў катэдры ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. Святыня не змагла змясціць шматлікіх вернікаў, многія сталі звонку. У гаміліі біскуп адзначыў: "Ахвяруючы сябе самога, Пан Езус паказвае кожнаму з нас, як моцна Бог нас любіць, як прагне нашага збаўлення, як хоча, каб мы былі шчаслівыя свабодай дзяцей Божых".

Па словах іерарха, вызнаючы Хрыста Валадаром, чалавек ідзе за Ім, несучы з верай і любоўю ўласны крыж. Біскуп заахвоціў маладых людзей словамі папы Францішка мець адвагу ісці супраць цячэння і прымаць адважныя, адказныя рашэнні, каб даказаць, што яны здольныя на сапраўдную любоў – верную і адказную.

## Адбудзецца дыяцэзіяльная сустрэча працаўнікоў аховы здароўя

**Працаўнікі бальніц, паліклінік і дамоў сацыяльнай апекі Гродзенскай дыяцэзіі сустрэнуцца 11 красавіка ў парафіяльным касцёле Святой Сям'і ў Лідзе.**
**Сустрэчу арганізуе Душпастарства аховы здароўя г. Гродна.**
**Пачатак сустрэчы а 10-й гадзіне.**

У яе межах запланаваны канферэнцыя, св. Імша, адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту і споведзь, час на знаёмства і сумесную гутарку.

Рэлігійная праблематыка сустрэчы будзе звязана з тэмай "Медыцынскія і духоўныя аспекты дэпрэсіі".

**Паведаміць аб удзеле неабходна да 7 красавіка бягучага года па тэлефоне: (8029)884-54-82 (МТС) або (8029)661-14-05 (Velcom) – кс. Мікалай Ціхановіч.**

***Сустрэча адкрыта для ўсіх зацікаўленых.***

**Паведамляем!**

**Набажэнствы да Езуса Журботнага ў парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Росі будуць адбывацца ад красавіка ў кожную другую суботу месяца а 15-й гадзіне.**

## ВЫНІКІ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЯ

***Ці прымаеце Вы ўдзел у велікапосных набажэнствах?***

***23,5%*** *так, у Крыжовым шляху*
***4,9%*** *так, спяваю Песні жальбы*
***9,9%*** *так, у рэкалекцыях*
***55,6%*** *так, сістэматычна ва ўсіх*
***3,7%*** *не сістэматычна*
***1,2%*** *мне не хапае часу*
***1,2%*** *цяжка сказаць*

*Мы спыталіся ў чытачоў нашай газеты і дыяцэзіяльнага партала grodnensis.by у якіх набажэнствах яны прымаюць удзел падчас Вялікага посту. Часцей за ўсё вернікі стараюцца ўдзельнічаць ва ўсіх велікапосных набажэнствах. Некаторыя часцей прымаюць удзел у набажэнстве Крыжовага шляху. Ёсць таксама тыя, хто не мае часу на ўдзел у набажэнствах Вялікага посту.*

***Чарговыя вынікі каментуе кс. Павел Салабуда, галоўны рэдактар.***

## КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА



**Кс. Павел Салабуда**

*Падчас Вялікага посту ў нас ёсць цудоўная магчымасць атрымаць мноства Божых ласкаў, прымаючы ўдзел у велікапосных набажэнствах. Вельмі цешыць факт, што нашыя вернікі актыўна карыстаюцца гэтай магчымасцю. Вялікая колькасць дзяцей і моладзі прыходзіць на спецыяльна для іх арганізаваныя набажэнствы Крыжовага шляху. У большых гарадах нашай дыяцэзіі можна ўбачыць вялікія тлумы людзей, што ўдзельнічаюць у Крыжовым шляху вуліцамі горада. Песні жальбы і велікапосныя рэкалекцыі збіраюць усё больш людзей. Разам з пакутуючым Хрыстом мы стараемся зразумець нашае зямное жыццё. Згаданыя вышэй набажэнствы можна адпраўляць таксама на працягу ўсяго года. Кожны з нас знойдзе сваё месца пад крыжам Хрыста.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастараў:

**6 красавіка 1968 г.** – кс. Генрых Герасімовіч, *проб. Градоўшчына;*
**19 красавіка 1947 г.** – кс. Марцін Пузырэўскі, *проб. Адэльск.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі:* ***grodnensis.by, catholic.by***

# Ад шчырага сэрца

Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу з нагоды свят Уваскрасення Пана ад усяго сэрца жадаем шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень. Няхай уваскрослы Хрыстос узмоцніць Вас для змагання са штодзённасцю, Святы Дух няхай адорыць усімі сваімі дарамі, а Маці Божая Вастрабрамская нястомна апекуецца Вамі кожны дзень і дадае сіл, каб крочыць наперад. Хрыстос сапраўды ўваскрос! Алелюя!

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму з нагоды Дня нараджэння і свят Уваскрасення Пана перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай кожны дзень будзе шчаслівы і благаслаўлёны, сэрца напаўняе радасць, любоў і надзея, у душы жыве супакой, а з твару не сходзіць усмешка. Жадаем таксама моцнага здароўя, сіл, цярплівасці ў пастарскай паслузе і ўсіх ласкаў ад уваскрослага Хрыста! Радаснага Алелюя!

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу з нагоды Велікодных свят перасылаю мноства сардэчных пажаданняў: Божага благаслаўлення на кожны дзень жыцця і пастарскай паслугі, нястомнага запалу ў абвяшчэнні Божага слова і вядзенні людзей да Пана, апекі Найсвяцейшай Маці, а таксама ўсіх ласкаў ад уваскрослага Хрыста.

*З памяццю ў малітве Генеральная настаяцельніца Сясцёр Дапаможніц Чыстцовым Душам Ірына Златкоўская*

Іх Эксцэленцыям Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Юзафу Станеўскаму, Ксяндзу Пробашчу Пятру Кубелю, а таксама ўсім Святарам Гродзенскай дыяцэзіі з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана складаем самыя сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, усмешкі на кожны дзень, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай уваскрослы Езус благаслаўляе Вас у штодзённай душпастарскай працы і будзе крыніцай супакою і радасці. Хрыстос Уваскрос! Алелюя!

*Удзячныя парафіяне з Крупава*

Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму з нагоды Дня нараджэння і Велікодных свят ад шчырага сэрца жадаем усяго самага найлепшага: моцнага здароўя, сіл, душэўнага супакою, непахіснай веры, надзеі і любові ў сэрцы, а таксама яснага неба над галавой і добрых людзей побач. Хрыстос Уваскрос! Алелюя!

*Мама з усёй сям'ёй*

Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Арцыбіскупу Тадэвушу Кандрусевічу і Іх Эксцэленцыям Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу, Юзафу Станеўскаму, Юрыю Касабуцкаму і Алегу Буткевічу з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем шчодрых дароў ад нашага Пана Езуса Хрыста, моцы Святога Духа, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і цудоўнага плёну на Божай ніве.

*Апостальства вечнай малітвы за святароў "Маргарытка" з пар. Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне*

Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму з нагоды Дня нараджэння і свят Уваскрасення Пана складаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай дух Божай любові сыдзе на Вас і напоўніць супакоем і радасцю, дадасць сіл у абвяшчэнні Добрай Навіны і ўзмоцніць на шляху да святасці. Няхай уваскрослы Хрыстос адорыць Вас сваімі ласкамі, а Маці Божая нястомна Вамі апекуецца! Шчасці Божа!

*Сям'я Абухоўскіх*

Паважаным Ксяндзам: Паўлу Салабуду, Яну Раманоўскаму, Ярасламу Грынашкевічу, Валерыю Быкоўскаму і Алегу Канановічу з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана ад усяго сэрца жадаем благаслаўлення ад уваскрослага Езуса на кожны дзень святарскай паслугі, усіх дароў Святога Духа, нястомнай апекі Маці Божай, а таксама ўсіх Божых ласкаў. Няхай кожны Ваш момант будзе напоўнены шчасцем, дабрынёй і любоўю, а полымя веры ніколі не згасне.

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

Паважаным Ксяндзу Пробашчу Віктару Велівісу, Ксяндзу Генрыку Яблоньскаму і Сястры Ядзвізе Мяцеліцы з нагоды Велікодных свят складаем самыя сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, удзячнасці і любові ад вернікаў. Няхай уваскрослы Езус будзе для Вас крыніцай радасці і супакою. Няхай Ён благаслаўляе Вас у паслузе кожны дзень і адорые сваімі дарамі, а Маці Божая няхай нястомна Вамі апекуецца. Жадаем таксама здзяйснення ўсіх мар, аптымізму, дабрыні і поспехаў ва ўсіх пачынаннях.

*Вернікі з пар. св. Казіміра ў Путрышках*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Вітольду Лазавіцкаму, Ксяндзам: Паўлу Раманоўскаму, Андрэю Радзевічу, Паўлу Беланосу і Яну Раманоўскаму з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем здароўя і стойкасці на кожны дзень святарскай паслугі. Няхай святло Хрыста асвячае Ваш шлях, а Божая міласэрнасць і апека Найсвяцейшай Маці дадаюць сіл і цярплівасці. Няхай добры Бог адорые сваім айцоўскім благаслаўленнем, Святы Дух вядзе па Божых сцежках, усмешка заўсёды госціць на Вашых тварах, побач будуць добразычлівыя людзі, а ўваскрослы Хрыстос штодзённа Вас благаслаўляе. Радаснага Алелюя!

*Ружанцовыя колы, члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам і верныя парафіяне з Радуні*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Паўлюкевічу з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, стойкасці, радасці ад выконваемай душпастарскай паслугі, Божага благаслаўлення, апекі Маці святароў і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай промні Божай міласэрнасці асвячаюць Ваш шлях, каб святло Вашай веры вяло да навяртання тых, хто яшчэ не ведае Хрыста. Дзякуем за душпастарскі візіт у нашыя дамы, за чулае сэрца, памяркоўнасць і гатоўнасць прыйсці на дапамогу. Хрыстос Уваскрос! Алелюя!

*Парафіяне з касц. св. апосталаў Пятра і Паўла ў Граўжышках*

Паважанаму Ксяндзу Паўлу Звяжынскаму з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні спалучаныя з малітвай. Жадаем шчодрых Божых ласкаў, здароўя на доўгія гады, дароў Святога Духа, няспыннай апекі Маці Божай, стойкасці на святарскім шляху, які вызначыў Вам усемагутны Бог, а таксама людской дабрыні. Мы дзякуем Вам за працу ў нашай парафіі, за цярплівасць, прыгожыя, мудрыя і павучальныя казанні, дабрыню і сціпласць, клопат пра людзей і чулае сэрца, а Вашай маме – за сына святара.

*З малітвай і павагай вернікі з пар. св. Юрыя ў Варнянах*

Паважанаму Ксяндзу Дзянісу Шмыгіну з нагоды Велікодных свят складаем сардэчныя пажаданні шчодрых дароў Святога Духа, здароўя, радасці, шмат сіл у вядзенні Божага люду, а таксама цудоўнага плёну на ніве Пана. Няхай уваскрослы Хрыстос адорыць Вас сваімі ласкамі і благаслаўленнем, а Найсвяцейшая Панна Марыя стала апекуецца і ніколі Вас не пакідае.

*Вернікі з пар. Звеставання НПМ у Міжэрычах*

Паважанаму Ксяндзу Дзянісу Шмыгіну з нагоды свят Уваскрасення Пана ад усяго сэрца жадаем мноства Божых ласкаў: моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, здзяйснення ўсіх мар, душэўнага супакою і людской добразычлівасці. Мы ўдзячны Вам за міласэрнае сэрца, мудрасць, самаадданасць, малітву і веру. Няхай усемагутны Бог асвячае сваім святлом кожны Ваш дзень.

*З павагай сям'я Амбрашкевіч з пар. Звеставання НПМ, в. Клепачы*

Паважаным Ксяндзам: Віталію Внароўскаму, Валерыю Быкоўскаму, Альгімантасу Паўлікасу, Андрэю Лішко, Валерыю Спірыдону, Яну Кузюку і Аляксандру Вараб'ёву з нагоды Дня святара жадаем моцнага здароўя, шчодрага плёну на ніве Пана, нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці і св. Антонія, а таксама ўсяго найлепшага. Няхай Хрыстос, які перамяніў хлеб у сваё Цела, а віно – у Кроў і дaручыў Вам штодзённа трымаць іх у сваіх святарскіх руках, заўсёды Вас благаслаўляе.

*Радасных і шчаслівых Велікодных свят жадаюць вернікі з пар. Адэльск*

Паважаным Ксяндзам Казіміру Жылісу, Паўлу Астукевічу і Віталію Бяленіку з нагоды Велікодных свят жадаем благаслаўлення ад уваскрослага Хрыста, моцы Святога Духа, апекі Маці Божай, шмат радасці, моцнага здароўя, сілы і супакою на кожны дзень, а таксама багатага плёну на ніве Пана. Хрыстос сапраўды Уваскрос! Алелюя!

*Парафіяне з Індуры*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Астукевічу з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, шматлікіх Божых ласкаў, добрых і шчырых людзей, гатовых заўсёды Вам дапамагчы, а таксама шмат сіл і стойкасці ў душпастарскай паслузе. Няхай Маці Божая апекуецца Вамі ў кожную хвіліну жыцця, а міласэрны Бог нястомна адорвае сваімі ласкамі і благаслаўленнем.

*Удзячныя парафіяне*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму з нагоды Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, сонечных дзён, шчырых і верных сяброў, а таксама радасці, сіл для перааадолення цяжкасцей штодзённага жыцця і выканання святарскай паслугі. Дзякуем за Вашу ахвярную працу, добрае сэрца, прыгожы прыклад веры і мудрасці. Няхай Святы Дух дапамагае Вам на ўсіх жыццёвых шляхах. Радаснага Алелюя!

*З малітвай удзячныя парафіянкі Пелагея, Міраслава, Анжэла і Леакадзія*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Дзмітрыю Несцеру з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана жадаем шмат здароўя, сілы, радасці і цудоўнага плёну на Божай ніве. Няхай уваскрослы Езус адорвае Вас сваім благаслаўленнем і любоўю, жыццё плыве ў супакоі, а Маці Божая прытуляе да свайго сэрца.

*Касцёльны камітэт і парафіяне з Геранёнаў*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Лебядзевічу з нагоды Велікодных свят дасылаем свае шчырыя віншаванні. Жадаем моцнага здароўя, радасці, душэўнага супакою і аптымізму на кожны дзень. Няхай на Вашым твары заўсёды жыве ўсмешка, а побач будуць добрыя і спагадлівыя людзі. Няхай уваскрослы Божы Сын адорыць Вас сваім благаслаўленнем і ўсімі ласкамі. Радаснага Вялікадня!

*Прадстаўнікі III Ордэна св. Францішка, Ружанцовыя колы і парафіяне з Субатнікаў*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Алегу Дулю з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні благаслаўлення ўваскрослага Езуса Хрыста, радасці ад святарскай паслугі, моцнага здароўя, усмешкі, дароў Святога Духа і апекі Маці Божай. Няхай з дапамогай Бога і добрых людзей здзейсняцца ўсе Вашы высакародныя планы і намеры. Дзякуем за распалены агонь веры, ахвярную працу ў пабудове нашай святыні, добрае і чулае сэрца, малітву і адданую службу Богу і людзям.

*Удзячныя парафіяне і любячая моладзь з пар. св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Алегу Дулю з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем моцнага здароўя, шчасця, радасці, доўгіх гадоў жыцця і служэння ў нашай парафіі. Няхай уваскрослы Хрыстос шчодра адорыць Вас сваімі ласкамі, а побач заўсёды будзе Найсвяцейшая Маці. Нізкі паклон за нястомную працу, духоўную апеку, шчырую малітву, цярплівасць, дабрыню і разуменне. Няхай Ваш святарскі шлях будзе асвечаны промнямі Божай міласэрнасці. Мы памятаем пра Вас у сваіх малітвах да Маці Божай. Хрыстос Уваскрос! Алелюя!

*З удзячнасцю малітоўная група з пар. св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску*

Паважаным Ксяндзам: Пробашчу Уладзіміру Гуляю, Уладзіславу Сурвілу, Артуру Валчкевічу, Станіславу Пацыну, Клерыкам: Дзянісу Бразінскаму, Віталію Аляксейчыку, Эрнэсту і Тамашу Мікалайчыкам, Анджэю Ганчару, а таксама шаноўным Сёстрам Клары Волчэк і Агнэс Астравух з нагоды Велікодных свят складаем спалучаныя з малітвай пажаданні моцнага здароўя, шмат радасці, моцы Святога Духа і плённай працы ў нашай парафіі. Няхай Ваша мудрасць, дабрыня, сціпласць і клопат пра людзей заўсёды будуць прыкладам для нас.

*Касцёльны камітэт і ўдзячныя парафіяне з Ліды-Фары*

Паважанаму Ксяндзу Андрэю Пышынскаму з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем пажаданні душэўнага супакою і цеплыні, шмат сіл і стойкасці, каб крочыць нялёгкім святарскім шляхам. Няхай на дарозе, якую Вам паказаў Бог, Вашымі спадарожнікамі заўсёды будуць Езус і Яго Найсвяцейшая Маці, а жывы агеньчык Святога Духа, што зззяе ў Вашым сэрцы, няхай ніколі не слабне і дапамагае ўсё большай колькасці людзей знайсці шлях да веры і да Касцёла. Дзякуем Вам за абвяшчэнне Божага слова, клопат аб парафіянах і святыні.

*З малітвай удзячныя парафіяне з Рандзілаўшчыны*

Паважанаму Ксяндзу Юрыю Канапельку з нагоды свят Уваскрасення Пана складаем сардэчныя пажаданні. Няхай уваскрослы Хрыстос благаслаўляе і абараняе Вас, а Панна Марыя мае ў сваёй сталай апецы. Моцнага здароўя на доўгія гады, людской дабрыні, душэўнага супакою, цішыні ў сэрцы, радасці, шчасця, усмешкі і спакойных дзён у Божай ласцы. Няхай Святы Дух асвячае сваім святлом кожны дзень Вашай святарскай працы.

*З удзячнасцю і малітвай парафіяне з капл. Вердамічы*

Паважанаму Ксяндзу Эдуарду Сінкевічу з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, шчасця, радасці з кожнай пражытай хвіліны, душэўнага супакою, моцнай надзеі на лепшае і ўсіх Божых ласкаў. Няхай Найсвяцейшая Маці нястомна Вамі апекуецца, а побач будуць толькі добрыя і зычлівыя людзі.

*Касцёльны камітэт і ўдзячныя вернікі з пар. Божай Міласэрнасці на Вішнаўцы*

Паважаным Ксяндзам: Пробашчу Яну Этэлю, Аляксандру Пятровічу, Эдуарду Сінкевічу і Аляксандру Фядотаву з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана жадаем шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень жыцця. Няхай Божая моц сыходзіць на Вас і будзе падтрымкай у выкананні душпастарскай працы. Няхай Вашы намаганні, шчырасць і адкрытыя сэрцы вядуць усіх вернікаў да Бога, а Вам будуць узнагароджаны ў Божым Валадарстве і тут, на зямлі.

*Касцёльны камітэт і ўдзячныя вернікі з пар. Божай Міласэрнасці на Вішнаўцы*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Марціновічу з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана перасылаем свае шчырыя віншаванні, а таксама словы ўдзячнасці, павагі і прызнання. Жадаем моцнага здароўя, зычлівых людзей побач, мудрасці і святасці.

Пане Езу, мы ведаем, як Ты любіш сваіх святароў. За тое, што Ксёндз Юрый абвяшчае Тваю навуку, што ад Твайго імя прабачае нам грахі, што раздае нам Тваё Цела, прытулі яго з любові да сябе і адары сваім благаслаўленнем, а мы будзем падтрымліваць яго ў сваёй малітве. Дзякуем бацькам за сына святара!

*Апостальства "Маргарытка" з в. Сураж*

Паважаны Ксёндз Дзмітрый Несцер! Ад усяго сэрца віншуем Вас з нагоды Дня святара і Велікодных свят. Дзякуем Вам за тое, што Вы з намі, што пачулі калісьці голас "Ідзі за Мной!" і пайшлі па дарозе служэння Богу і людзям. Жадаем Вам моцнага здароўя, сіл і стойкасці ў цяжкай душпастарскай працы. Няхай уваскрослы Езус адорыць Вас сілай і сваім благаслаўленнем, а Маці Божая атуляе сваёй мацярынскай апекай.

*Вернікі з капл. Сураж*

Паважанаму Ксяндзу Рычарду Пэрчаку з нагоды Імянін складаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай кожны дзень Вашага жыцця будзе шчаслівы і благаслаўлёны, побач будуць добразычлівыя людзі, а ў душы жыве радасць, надзея і любоў. Няхай Ваша вера ўзмацняецца з кожным днём, а Божае благаслаўленне, дары Святога Духа і апека Вашага св. Заступніка будуць Вашай зброяй у барацьбе супраць зла.

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Дзітвы*

Паважаным Айцам Станіславу Садоўскаму і Каралю Бараноўскаму з нагоды Дня святара і Велікодных свят ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа і нястомнай апекі Маці Божай. Няхай здароўе, радасць і людская добразычлівасць заўсёды Вам спадарожнічаюць. Няхай уваскрослы Езус заўсёды валадарыць у Вашых сэрцах, дадаючы сіл у паслузе Богу і людзям. Хрыстос Уваскрос! Алелюя!

*З малітвай парафіяне з Поразава*

Паважаным Айцам: Пробашчу Антонію Пажэцкаму, Яўгену Голубу і Максімільяну Свяжэўскаму з нагоды Велікодных свят ад шчырага сэрца жадаем усяго найлепшага: Божага благаслаўлення на доўгія гады жыцця, апекі Найсвяцейшай Маці, шчодрых дароў Святога Духа, а таксама моцнага здароўя, сіл і стойкасці на святарскім шляху, штодзённай радасці і супакою ў сэрцы. Хрыстос Уваскрос!

*Рыцарства Беззаганнай з пар. МБ Анёльскай*

Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Адамовічу з нагоды свят Уваскрасення Пана складаем сардэчныя віншаванні. Жадаем шмат здароўя, душэўнага супакою і шчаслівай працы, моцы і стойкасці ў службе Богу і людзям, а таксама нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Божага слова. Няхай Маці Божая апекуецца Вамі і нястомна вядзе па жыцці.

*З удзячнасцю парафіяне з в. Гінэлі*

Паважанаму Ксяндзу Дзмітрыю Сядлецкаму з нагоды Імянін ад усяго сэрца перасылаем шчырыя пажаданні ўсяго найлепшага: моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, шчасця, якое Вы знойдзеце ў Богу, супакою ў душы і радасці ў сэрцы. Няхай Вас напаўняе моц Святога Духа, любоў і надзея на лепшае. Няхай побач будуць добразычлівыя людзі, а з твару не знікае ўсмешка. Шчасці Божа!

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Усялюба*

Паважаным Ксяндзам Пробашчу Мікалаю Ціхановічу і Айцу Андрэю Ядкоўскаму з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана перасылаем букет найлепшых пажаданняў: мноства Божых ласкаў, добрага здароўя на доўгія гады, сілы, душэўнага супакою, сталай апекі Найсвяцейшай Маці, павагі, добрых і зычлівых людзей на жыццёвым шляху. Няхай Бог, якому Вы даверыліся, дапамога перааадолець усе цяжкасці, а Божае слова, якое Вы засейваеце ў нашых сэрцах, прыносе сторазовы плён. Няхай Ваша штодзённая праца прыносіць Вам задавальненне, а нас накіроўвае дарогай да збаўлення. Радаснага Алелюя!

*З удзячнасцю і павагай вернікі і Ружанцовае кола св. Яна Непамуцэна са Станевічаў*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Мікалаю Ціхановічу, а таксама ўсім святарам дэканата Вялікая Бераставіца з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана складаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай уваскрослы Хрыстос, Збаўца свету, адорые сваімі ласкамі, сапраўднай радасцю і супакоем.

*Францішканскі ордэн свецкіх з Вялікіх Эйсмантаў і Кола жывога Ружанца з Вялікіх Ядкевічаў*

Паважаным Ксяндзам: Пробашчу Чэславу Паўлюкевічу, Андрэю Радзевічу, Віктару Мыслюку, а таксама ўсім Ксяндзам і Рэкалекцыяністам, якія працавалі ў нашай парафіі, з нагоды Дня святара складаем самыя шчырыя пажаданні. Мы молім Бога, каб кожны з Вас знаходзіў у сваім сэрцы і няспынна пацвярджаў жыццём тое сапраўднае значэнне, якое мае Ваша святарскае пакліканне, а таксама каб усе людзі былі ўдзячны за дар паклікання, як за нічым не заслужаную ласку. Жадаем той святасці, якая выражаецца стараннасцю і самаадданасцю, каб Вас заўсёды падтрымлівала моц Святога Духа і любоў да Эўхарыстыі, каб Вы стараліся быць верагоднымі сведкамі Хрыста ў сучасным свеце, каб Вашыя заклікі плылі з чыстага сэрца, якое мае ў сабе прастату і шчырасць сапраўдных вучняў. Жадаем, каб у таямніцы Вашага святарскага жыцця Хрыстос стаў бачным і чутным, каб Вы па Яго прыкладзе былі добрымі пастарамі і дасягнулі святасці.

*З хрысціянскім прывітаннем парафіяне з Росі*

● працяг на с. 8

# Ад шчырага сэрца

Паважанаму Ксяндзу Віктару Мыслюку з нагоды свят Уваскрасення Пана перасылаем букет найлепшых пажаданняў добрага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, добрых і зычлівых людзей побач. Няхай уваскрослы Хрыстос вядзе Вас да Бога па дарозе, якую Вы самі выбралі, а Маці Божая заўсёды ахінае Вас сваёй чулай апекай. Шчасці Божа!

*Удзячныя парафіяне з в. Шэмбелеўцы*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Алегу Дулю з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем самыя сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, сіл на кожны дзень святарскай паслугі і людской добразычлівасці. Няхай святло Хрыста асвячае Ваш святарскі шлях, а Божая міласэрнасць і апека Найсвяцейшай Маці дадаюць сіл і цярплівасці. Дзякуем за добрае і чулае сэрца, клопат аб нашых дзецях, за ратаванне і навяртанне нашых душ, а Пану Богу – за тое, што паслаў нам Вас. Радаснага Алелюя!

*З любоўю і ўдзячнасцю дзеці і іх бацькі з пар. св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Антонію Казлоўскаму з нагоды Дня святара і Велікодных свят сардэчна жадаем усяго самага найлепшага. Няхай Ваш святарскі шлях будзе шчаслівы і благаслаўлёны. Няхай уваскрослы Езус адорыць Вас сваімі ласкамі, здароўем на доўгія гады жыцця, сілай і стойкасцю, каб Вы маглі пераадолець усе цяжкасці на сваім жыццёвым шляху. Сардэчна дзякуем Вам за добрае, чулае сэрца, шчырую, ахвярную і руплівую душпастарскую працу.

*З малітвай вернікі з в. Малінавая*

Паважаным Ксяндзам: Пробашчу Антонію Філіпчыку, Алегу Дулю, Паўлу Эйсманту і Дзмітрыю Леўчыку з нагоды Дня святара і Велікодных свят ад усяго сэрца жадаем нястомнай апекі Панны Марыі на нялёгкай дарозе святарскай паслугі, дароў Святога Духа, шчодрых Божых ласкаў, душэўнага супакою, людской добразычлівасці, здароўя і доўгіх гадоў жыцця.

*III Ордэн св. Францішка з пар. св. Вацлава ў Ваўкавыску*

Паважаных Ксяндзоў: Пробашча Яна Рэйшаля і Андрэя Кевлюка, Сясцёр Ганну і Кацярыну, Арганістку Ганну сардэчна віншуем са святамі Уваскрасення Пана. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, нязгаснага запалу і плённай працы на Божай ніве. Няхай міласэрны Бог і Святы Дух дадаюць Вам сіл і натхнення, а Найсвяцейшая Панна Марыя адорвае ласкавасцю і цеплынёй свайго сэрца. Жадаем Вам таксама здзяйснення ўсіх планаў і намераў, шчодрых і добразычлівых людзей на жыццёвым шляху. Шчаслівых і радасных Свят!

*Вернікі з капл. Ліпічна*

Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму з нагоды свят Уваскрасення Пана перасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай Маці Божая Яснагорская нястомна Вамі апекуецца, прытуляе да сябе, абараняе ад усякага зла і благаслаўляе Вашу душпастарскую працу. Моцнага здароўя на доўгія гады, шчасця, сіл і стойкасці на жыццёвым шляху.

*З малітвай і ўдзячнасцю парафіяне з в. Каменка*

Паважаным Ксяндзам Казіміру Мураву і Алегу Жураўскаму з нагоды Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Божая любоў і міласэрнасць сыходзіць на Вас кожны дзень, Найсвяцейшая Маці няхай трымае пад сваёй апекай, а наш уваскрослы Збаўца няхай нястомна адорвае сваімі ласкамі і падтрымлівае на нялёгкім душпастарскім шляху. Ад усяго сэрца дзякуем Вам за адкрытыя, шчырыя і добрыя сэрцы, а таксама за гатоўнасць прыйсці на дапамогу ў кожны момант. Няхай Ваша жыццё будзе шчаслівым і бласлаўлёным. Хрыстос Уваскрос!

*З павагай сем'і Іода, Лях, Валяк з Дзятлава*

Паважанаму Ксяндзу Здзіславу Пікулу з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем душэўнага супакою, моцнага здароўя і нязгаснага запалу да абвяшчэння Божага слова. Няхай Уваскрослы Хрыстос, які збавіў свет праз сваю смерць на крыжы, дадасць Вам сіл, каб пераадольваць усе цяжкасці, а таксама адорыць Вас радасцю свайго Уваскрасення. Маці Божая няхай штодзённа Вамі апекуецца, а Святы Дух спасылае свае шчодрыя дары. Хрыстос Уваскрос! Алелюя!

*З павагай Ружанцовыя колы, касцёльны камітэт і верныя парафіяне з Дзятлава*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Ігару Анісімаву з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем мноства Божых ласкаў, апекі Маці Божай, дароў Святога Духа, моцнага здароўя, поспехаў у душпастарскай працы. Дзякуем Вам за Божае слова, малітву і добрае сэрца.

*Парафіяне з касц. Беззаганнага Зачацця НПМ у Слоніме*

Паважанаму Ксяндзу Алегу Пятрашку з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана з глыбіні сэрцаў жадаем шмат здароўя, доўгіх і шчаслівых гадоў жыцця, стойкасці, Божага благаслаўлення, апекі Маці Божай, дапамогі Святога Духа і Божай міласэрнасці на кожны дзень. Верна служыце Богу і людзям! Радаснага Алелюя!

*Верныя парафіяне з в. Еўлашы*

Паважаным Ксяндзам: Пробашчу Юрыю Жэгарыну, Аляксандру Баклажцу, Яну Балтрукевічу, Аляксандру Сасноўскаму, Дзмітрыю Леўчыку, Дыякану Чэславу Ладыку і Клерыку Вадзіму Каўтанюку з нагоды свят Уваскрасення Пана ад шчырага сэрца жадаем усяго найлепшага. Няхай усе Божыя ласкі, якімі прасякнуты Велікодныя святы, напаўняюць Вашае жыццё і паслугу. Няхай побач заўсёды будуць добразычлівыя людзі, гатовыя прыйсці на дапамогу ў цяжкія хвіліны, а Маці Божая Навагрудская ахінае Вас сваёй апекай і мацярынскай любоўю. Хрыстос Уваскрос! Алелюя!

*Касцёльны камітэт і вернікі з пар. св. Міхала Арханёла ў Навагрудку*

Паважанаму Ксяндзу Юрыю Барташэвічу з нагоды свят Уваскрасення Пана жадаем захаваць шчырасць сэрца, дабрыню думак і чысціню духа. Няхай добры Бог асвеціць ласкай Ваш шлях, адорыць моцным здароўем, пашле зычлівых людзей, добрыя сэрцы якіх не дазволяць Вам засумаваць. Няхай усмешка дабрыні ніколі не гасне на Вашым твары. Аддзяч, Божа, маме за сына святара.

*Удзячныя парафіяне з Жырмунаў*

Паважанаму Ксяндзу Эдуарду Сінкевічу з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні ўсіх Божых ласкаў, моцнага здароўя на доўгія гады, шчасця, аптымізму, сілы і стойкасці на жыццёвым шляху, а таксама шчодрых дароў Святога Духа і нястомнай апекі Маці Божай на кожны дзень жыцця.

*З павагай “Легіён Марыі” з пар. Божай Міласэрнасці*

Паважаным Ксяндзам: Пробашчу Аляксандру Раманоўскаму, Юзафу Трубовічу і Антонію Адамовічу з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем шмат радасці, здароўя, цудоўнага святарскага шляху, поспехаў у душпастарскай працы, а таксама добразычлівасці ад парафіян. Вясёлых Свят!

*Парафіяне з касц. Беззаганнага Зачацця НПМ у Паўднёвым*

Паважанаму Ксяндзу Юрыю Марціновічу з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана жадаем мноства Божых ласкаў, моцнага здароўя і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены радасцю, любоўю, верай і надзеяй на лепшае.

*Касцёльны камітэт і парафіяне з Геранёнаў*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віктару Субелю з нагоды свят Уваскрасення Пана і Дня святара ад усяго сэрца жадаем здароўя, шчасця, шмат сіл і стойкасці ў складаных хвілінах жыцця. Няхай добры Бог адорвае Вас усімі ласкамі, а Найсвяцейшая Панна Марыя ахінае сваім плашчом. Дзякуем Вам за добрае і чулае сэрца, любоў і цярплівасць да нас. Нізкі паклон бацькам за сына святара.

Найлепшыя пажаданні складаем таксама шаноўным Сёстрам Агнешцы, Ганне і Удаве Сабіне. Няхай Пан Бог падтрымлівае Вас заўсёды і ўсюды і дапамагае ў рэалізацыі ўсіх планаў і намераў. Вясёлых Свят!

*З малітоўнай памяццю члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам, касцёльны камітэт і парафіяне з Сурвілішкаў*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Лебядзевічу з нагоды Дня нараджэння, Велікодных свят і Дня святара ад усяго сэрца жадаем здароўя, шчасця, шмат сіл і цярплівасці, усіх Божых ласкаў, дароў Святога Духа, добрых і зычлівых людзей на святарскім шляху. Дзякуем Вам за адданую службу Богу і людзям, за добрыя парады для кожнага з нас, за прыемную ўсмешку, добрае сэрца, любоў і зычлівасць да нас. Няхай Бог адорвае Вас усімі дарамі, а Маці Божая ахінае сваёй ласкай і апекай.

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Суботнікаў, Гіровічаў і Жамыслаўля*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Генрыху Яблоньскаму з нагоды Дня святара, свят Уваскрасення Пана і Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, сіл на кожны дзень святарскай паслугі і людской добразычлівасці. Няхай святло Хрыста асвячае Ваш святарскі шлях, а Божая міласэрнасць і апека Маці Божай дадаюць сіл і цярплівасці. Няхай св. Заступнік абараняе Вас у кожную хвіліну жыцця, а добры Бог адорвае сваім бацькоўскім бласлаўленнем. Святы Дух няхай вядзе па Божых сцежках, а Анёл-ахоўнік пляце Вам вянок з белых руж.

*З малітвай і ўдзячнасцю вернікі з Забалаці*

Паважаны Ксёндз Пётр Кубель! З нагоды свят Уваскрасення Пана жадаем, каб гэтыя святы прынеслі Вам бязмежную радасць і шчасце, каб Хрыстос адарыў здароўем і бласлаўленнем, а Маці Божая Вастрабрамская ахоўвала Вас кожны дзень і раз'ясняла дарогу да Пана.

*З малітвай сям'я Амбражук з Больцішкаў*

Паважанаму і дарагому Ксяндзу Пробашчу Зянону Рамейку з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана складаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай уваскрослы Хрыстос дапамагае Вам у штодзённай паслузе, а таксама будзе Вашай сілай і моцай у здзяйсненні ўсіх добрых намераў. Няхай жыццё плыве ў супакоі, а праца прыносіць шчодры плён. Няхай Бог адорвае Вас моцным здароўем на доўгія гады, а Ваша вера, шчырасць і самаадданасць будуць добрым прыкладам для пераймання. Дзякуем за распалены агонь веры, малітву, адкрытае сэрца і адданае служэнне Богу і людзям.

*Апостальства дапамогі чыстцовым душам і парафіяне з Астрыны*

Паважанаму Ксяндзу Пятру Кубелю з нагоды свят Уваскрасення Пана Езуса жадаем здароўя, шчасця і стойкасці ў душпастарскай працы, апекі Найсвяцейшай Маці, дароў Святога Духа і мноства цудоўных хвілін на шляху, які падрыхтаваў для Вас Пан. Няхай уваскрослы Хрыстос прынясе Вам радасць, супакой і мноства дзён, напоўненых Яго дарамі. Дзякуем за распалены агонь веры, малітву, адкрытае сэрца і адданую паслугу Богу і людзям.

*Верныя парафіяне з Больцішкаў*

Паважаным Ксяндзам Пробашчу Юзафу Багдзевічу і Паўлу Гардзейчыку, а таксама шаноўным Сёстрам з нагоды Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, душэўнага супакою, шмат радасці, светлай раніцы Уваскрасення і смачнага велікоднага яйка! Няхай уваскрослы Хрыстос бласлаўляе і ахоўвае Вас, а Панна Марыя мае ў сваёй апецы. Шчасця, цяпла, поспехаў у рэалізацыі ўсяго задуманага і вясёлага Вялікадня! Шчыра дзякуем за добразычлівасць, любоў і цярплівасць, а таксама за тое, што Вы з намі.

*Вернікі з пар. Космы і Дам'яна ў Астраўцы*

Паважанаму Ксяндзу Віктару Ханько з нагоды Дня святара складаем сардэчныя пажаданні. Жадаем, каб на святарскім шляху Вам спадарожнічала блізкасць Таго, хто Вас паклікаў і каму Вы прысвяцілі жыццё. Няхай Божы Дух жыве ў Вашым сэрцы і ніколі не дазволіць забыцца пра тое, што ў святарскім жыцці самае галоўнае. Жадаем Вам, каб складанасць трывання пры Хрысце была ўзнагароджана радасцю Уваскрасення. Жадаем, каб рытм Вашага святарскага сэрца біў рытмам любові Сэрца Езуса, каб Вашае сэрца пашыралася і адкрывалася на нязмерную любоў Бога. А перш за ўсё жадаем, каб па прыкладзе Хрыста Вы былі добрым пастырам і дасягнулі святасці.

*З хрысціянскім прывітаннем і малітвай сябры*

Паважанаму Ксяндзу Паўлу Калесніку з нагоды Велікодных свят складаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай Божае бласлаўленне сплывае на Вас нястомна, Маці Божая мае ў сваёй апецы, а ўваскрослы Хрыстос адорвае сваімі бязмернымі ласкамі. Жадаем таксама моцнага здароўя на доўгія гады, душэўнага супакою, любові і дабрыні ад парафіян, а таксама шчасця і радасці на кожны дзень. Хрыстос Уваскрос! Алелюя!

*Парафіяне з в. Андрэеўцы*

Паважаным Ксяндзам: Пробашчу Віктару Велівісу і Генрыху Яблоньскаму з нагоды Дня святара жадаем моцнага здароўя, сіл на доўгія гады жыцця, радасці і задавальнення ад працы на ніве Пана. Няхай усемагутны Бог, які ўказаў Вам дарогу жыцця, узнагародзіць Вас за самаадданую святарскую паслугу, за любоў і павагу да кожнага чалавека. Нізкі паклон за міласэрныя сэрцы і клопат пра ратаванне нашых душ.

*Парафіяне з касц. св. Роха ў Грандзічах*

Паважаным Ксяндзам Віталію Чургану і Мікалаю Ціхановічу з нагоды Вялікадня складаем букет найлепшых пажаданняў моцнага здароўя, шчасця, душэўнага супакою, радасці ў сэрцы і ўсіх Божых ласкаў. Няхай промні Божай любові і міласэрнасці напаўняюць Ваша жыццё, а святарская праца прыносіць багаты плён. Няхай Маці Божая нястомна Вамі апекуецца, а Святы Дух адорвае сваімі дарамі.

*Кола Жывога Ружанца МБ Тракельскай з Юрацішкаў*

Паважанаму Ксяндзу Дзмітрыю Несцеру з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Хрыста складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог дае Вам здароўе і радасць, а Маці Божая мае ў сваёй апецы. Няхай у Вашым сэрцы жыве супакой, і ніколі не будзе нястачы ў людской добразычлівасці.

*Вернікі з в. Вінцукі і ваколіц*

Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем усяго найлепшага: здароўя, усіх Божых ласкаў, радасці і апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай уваскрослы Езус нястомна адорвае Вас сваім бласлаўленнем. Хрыстос Уваскрос! Алелюя!

*Былыя парафіяне з в. Навіянка*

Паважаным Ксяндзам: Антонію Абухоўскаму, Юрыю Павайбу, Паўлу Гедройцю, Аляксандру Севасцьяновічу, Раману Рачко, Генрыху Яблоньскаму, Юзафу Ханьчыцу, а таксама Айцам Антонію Пажэцкаму і Казіміру Енджэйчаку з нагоды Дня святара і Велікодных свят ад усяго сэрца жадаем мноства Божых ласкаў: моцнага здароўя, аптымізму, душэўнага супакою, дабрыні і зычлівасці ад людзей навокал, а таксама нястомнай радасці ад свят Уваскрасення. Вясёлага Алелюя!

*Вернікі з пар. Тэалін*

Паважаным Ксяндзам Яну Гавецкаму і Аляксандру Лебядзевічу з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Вас заўсёды акружаюць промні Божай міласэрнасці, моц Святога Духа і апека Найсвяцейшай Панны Марыі. Жадаем таксама моцнага здароўя, шчасця і доўгіх гадоў жыцця.

*Вернікі з в. Вігушкі і Галімшчына*

Паважанаму Ксяндзу Мікалаю Ціхановічу з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем здароўя, радасці, аптымізму. Няхай Езус Хрыстус напоўніць Вас агнём сваёй любові, умацуе сваёй сілай, блаславіць Вашу працу шчодрымі дарамі, натхніць ў малітве, каб кожны дзень Вы жылі таямніцай Яго смерці і ўваскрасення.

*Душпастарства службы здароўя*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем Божай любові, шмат ласкаў ад Езуса Хрыста, дароў Святога Духа, сталай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, здароўя, моцнай веры, стойкасці ў пакліканні. Няхай Вашае жыццё будзе напоўнена радасцю, аптымізмам, добрымі і зычлівымі людзьмі.

*Малітоўная група МБ Кангрэгацкай*

Паважанаму Ксяндзу Паўлу Звяжынскаму з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, добрых і зычлівых людзей, гатовых прыйсці на дапамогу ў кожную хвіліну. Няхай Святы Дух асвячае сваім святлом кожны дзень Вашай святарскай паслугі, а Найсвяцейшая Маці ахінае плашчом сваёй мацярынскай любові.

*Парафіяне з капл. св. Юрыя, в. Варона*

Паважаным Айцам: Дзмітрыю Лабкову, Юзафу Гэнзе, Андрэю Урублеўскаму, Валерыю Мазюку, Віктару Бохану і Эдуарду Пяцельчыцу з нагоды Дня святара і Велікодных свят складаем сардэчныя пажаданні ўсіх Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа і нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай радасць і супакой напоўняць Вашыя сэрцы, а побач будуць добразычлівыя людзі. Дзякуем Вам за абвяшчэнне Божага слова, якое ў нашых сэрцах пакідае глыбокі след. Няхай уваскрослы Езус, які паклікаў Вас да святарства, штодзённа ўзмацняе і адорвае Вас сваімі ласкамі.

*Апостальства вечнай малітвы за святароў “Маргарытка” з пар. Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне*

Паважанаму Айцу Пробашчу Вітольду Пяцельчыцу з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем мноства Божых ласкаў на кожны дзень. Няхай усё задуманае здзяйсняецца, радасць штодзённа госціць у сэрцы, а побач будуць добрыя і зычлівыя людзі. Жадаем таксама нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці і шчодрых дароў Святога Духа.

*З павагай вернікі з в. Рудкевічы*

Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Шэмету з нагоды Дня нараджэння жадаем шчодрых Божых ласкаў: моцнага здароўя, шчасця, сіл і стойкасці на святарскім шляху, штодзённай радасці, душэўнага супакою і апекі Найсвяцейшай Маці і св. Заступніка. Шчасці Божа!

*Сям'я Канопка*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Павел Салабуда;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** кс. Ян Раманоўскі, Юрый Лавыш, Алена Гальчэня; тэл. **152/ 756438**; e-mail: **slowozycia@mail.grodno.by; http://www.slowo.grodnensis.by;**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 1986; тыраж 6600; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная